


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 12 (41). Слонім. 20 — 26 сакавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


**ТЭЛЕГРАМА Ў НУМАР**

BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE
КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
54 Mary St., Barrie, Ont., Canada. L4N 1T1. Tel: (705) 725-8654

2 Сакавіка, 1998.

Урачыстаму Сходу сьвяткаваньня
80-х угодкаў 25 САКАВІКА
у Слоніме

Ад імя старшыні Каардынацыйнага Камітэта беларусаў Канады Раісы Жук-Грышкевіч, нашай зямлячкі, на адрас рэдакцыі прыйшла віншавальная тэлеграма з нагоды 80-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Нашы суайчыннікі з далёкай Канады жадаюць слонімцам "добрага здароўя, непахіснай веры ў ідэалы 25 Сакавіка і плёну ў працы на карысць вызвольнай справы — змагання за дзяржаўную незалежнасць Беларусі!"

Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня

*Матэрыялы, прысвечаныя юбілею БНР, чытайце на 3-й старонцы.*

**АФІЦЫЙНА**

## Перанеслі рабочы дзень

**Савет міністраў рэспублікі пастанавіў перанесці рабочы дзень з панядзелка 27 красавіка на суботу 25 красавіка 1998 года.**

## На з'езд у Мінск

**17-18 сакавіка адбыліся сходы прадпрымальнікаў раёна і горада, дзе прайшлі выбары дэлегатаў на першы рэспубліканскі ўстаноўчы з'езд прадпрымальнікаў і прамыслоўцаў.**

На з'езд у Мінск ад раёна быў выбраны генеральны дырэктар фірмы "Тэлкон" Аляксандр Мурашка.

Ад прадпрымальнікаў горада ў Мінск паедзе Раман Гіль.

Наталля ФУРСАВА

## Ваявалі штабісты

**Днямі ў Слонімскай брыгадзе закончыліся штабныя вучэнні.**

Камандуючы армейскім корпусам генерал Фралоў дзэянні нашых афіцэраў ацаніў на добра.

Алесь ЦІШКЕВІЧ

**НАВІНЫ**

## Адміністрацыя прэзідэнта зацікавілася работай Слонімскага выканкама

**На мінулым тыдні адбылося паседжанне гарадскога выканкама, дзе разглядалася пытанне аб ходзе работы са зваротамі грамадзян у святле распараджэння прэзідэнта.**

Па словах загадчыка аддзела аблвыканкама Эдуарда Раманоўскага, які прысутнічаў на паседжанні, па колькасці зваротаў і пісем, што трапілі ў гарадскую адміністрацыю, Слонім займае першае месца ў вобласці. Летась такіх лістоў было зафіксавана звыш 3600. Тым часам, як у іншых раёнах Гродзенскай вобласці гэты паказчык у некалькі разоў ніжэйшы.

«Мусіць таму, — заўважыў Эдуард Раманоўскі, — работа па гэтаму пытанню Слонімскага гарвыканкама будзе разглядацца на калегіі адміністрацыі прэзідэнта».

Алесь ЦІШКЕВІЧ

## Па слядах Вермахта

**14 і 15 сакавіка ў Слоніме працавалі супрацоўнікі тэлестудыі ARD-6 з Германскага тэлебачання.**

Нямецкія журналісты здымаюць шасцісерыйны фільм пра Другую сусветную вайну. Сёння ў Германіі ідзе дыскусія наконт таго, ці прымаў Вермахт удзел у ваенных злачынствах. Адна з серый фільма так і будзе называцца: "Злачынствы Вермахта". Яе здымкі праходзілі ў Слоніме. Нямецкія журналісты запісвалі паказанні сведкаў ахвяр фашызму, здымалі тыя мясціны, дзе адбываліся масавыя расстрэлы людзей.

Кансультантам у нямецкіх тэлежурналістаў быў слонімскі гісторык Ігар Пааградзецкі.

Міхась АКУЛКА



## Чытайце ў нумары:



**ЗДАРЭННІ**

## Кава на рэйках

**У нядзелю, 15 сакавіка, каля 15 гадзін дня, на чыгуначным пераездзе каля вёскі Чамяры здарылася аварыя.**



Польскі аўтафургон сутыкнуўся з пасажырскім цягніком. На шчасце, абыйшлося без чалавечых ахвяр, аднак фургон, гружоны кавай, ад удару з лакаматывам разляцеўся ўшчэнт.

Па словах відавочцаў здарэння, жыхары Чамяроў, даведаўшыся пра аварыю, літаральна накінуліся на дармаўшчыну. Бляшанкі з кавай людзі збіралі, насілі дахаты мяхамі і скрынкамі. Груз з Польшчы рабавалі і пасажыры цягніка. На наступныя дні мясцовыя марадзёры па ўсім горадзе актыўна гандлявалі кавай. Адну бляшанку яны прадавалі ад 50 да 70 тысяч рублёў.

## Укралі цялушак

**Не далічыліся нядаўна раніцай трох гадавалых цялушак даглядчыцы фермы вёскі Мілаванне калгаса "1-ае Мая".**

Невядомыя злодзеі ўкралі іх ноччу і «асвежавалі» у лесе непадалёку ад фермы.

Узбуджана крымінальная справа, вядзецца следства.

Валянцін ЧУРЫЛА

## Рада БНР заявляет...

**14-15 марта в Нью-Йорке (США) состоялось заседание президиума Рады Белорусской Народной Республики, которая с 1919 года находится в эмиграции.**

На нем рассмотрена инициатива «о присоединении к гражданству Белорусской Народной Республики», которая исходит от группы граждан Беларуси. Как сообщил БелаПАНу заместитель председателя Рады БНР Сергей Наумчик, на заседании заявлено: люди, которые работают на пользу белорусской демократической государственности, имеют основания считать себя гражданами БНР. Президиум высказал также удовлетворение тем, что к празднованию 80-летия Белорусской Народной Республики присоединился самый широкий спектр демократических сил Беларуси.

БелаПАН




**НАВІНЫ**

## Самы класны!

**18 сакавіка ў СШ №3 прайшоў фінал конкурсу сярод педагогаў горада «Наш класны — самы класны!».**

Пераможцам конкурсу стала настаўніца СШ №4 Вікторыя Юрчак.

Міхась АКУЛКА

## Наведалі музей

**У панядзелак, 16 сакавіка, музей "Літаратурная Слонімшчына", які створаны і існуе ў цэнтральнай раённай бібліятэцы, наведалі навучэнцы ПТВ-129.**

Старшы бібліятэкар Таццяна Карась правяла экскурсію, падчас якой пазнаёміла ўсіх з літаратурнымі творамі Гальяша Леўчыка, Анатоля Іверса, Рудольфа Пастухова, Аляксея Якімовіча, Сяргея Чыгрына і іншых.

Валянцін ЧУРЫЛА

# НАША СПАДЧЫНА

## Узыходзіла сонца незалежнай Беларусі...

**25 сакавіка адзначаюцца 80-ыя ўгодкі з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).**

Дваццаць пятага сакавіка 1918 года, пасля некалькіх стагоддзяў нявoлі, беларускі народ абвясціў аднаўленне незалежнасці сваёй дзяржавы. Гэта адбылося ў час нямецкай акупацыі. Але пачыналася ўсё раней.

У снежні 1917 г. ў Мінску праходзіў Першы Усебеларускі З'езд, які павінен быў вырашыць лёс Беларусі. Аднак бальшавікі сілай разагналі з'езд і прымусілі яго Раду пайсці ў падполле. 19 лютага 1918 года беларускія патрыёты ў Мінску паднялі паўстанне і вызвалілі горад ад бальшавікоў. Уладу пераняла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якая звярнулася да народа з першай Устаўной граматай.

Але тым часам у Мінск уварваліся кайзераўскія войскі. Тым не менш Рада БНР працягвала дзейнічаць і ў час нямецкай акупацыі. 9 сакавіка яна прыняла 2-ю Устаўную грамату, а 25 сакавіка — трэцюю, у якой Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай краінай. Тое гістарычнае паседжанне Рады БНР цягнулася ўсю ноч. І толькі, калі пачало ўзыходзіць сонца, пастанова была прынята. Некалькі чалавек выгукнулі: «Узыходзіць сонца незалежнай Беларусі!».

БНР існавала нядоўга. Адной з прычын таму была адсутнасць беларускага войска. Не было каму спыніць бальшавікоў, немцаў, украінцаў, палякаў, літоўцаў і латышоў, якія падзялялі нашу Бацькаўшчыну на часткі. Амаль стотысячная беларуская армія, якая знаходзілася ў Румыніі, не здолела прабіцца на Беларусь...

Кожны год 25 сакавіка беларускія патрыёты адзначаюць угодкі БНР. Гэта не проста дата ў гісторыі. 25 сакавіка — гэта свята незалежнасці беларускага народа, беларускай дзяржавы. А яшчэ — гэта напамін пра тысячы мужных, ахвярных патрыётаў, якія аддалі свае жыцці, каб жыла вольная і незалежная БАЦЬКАЎШЧЫНА.

С. Ё.



**На здымку:** *першы ўрад (Народны Сакратарыят) Беларускай Народнай Рэспублікі. Злева направа сядзяць: консул БНР у Маскве Алесь Бурбіс, народны сакратар гаспадаркі Янка Серада, Старшыня Народнага Сакратарыяту і народны сакратар міжнародных справаў Язэп Варонка, дзяржаўны скарбнік БНР Васіль Захарка; стаяць: народны сакратар асветы Аркадзь Смоліч, народны сакратар кантролю Пётра Крэчаўскі, сябра Народнага Сакратарыяту палкоўнік Кастусь Езавітаў, сябра Народнага Сакратарыяту Антон Аўсянік, загадчык справаў Народнага Сакратарыяту Лявон Заяц. Мінск, травень 1918 г.*



## Трэцяя Устаўная грамата

### Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; ні пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА АБВЯШЧАЕЦЦА НЕЗАЛЕЖНАЙ І ВОЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Установчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага траціць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічебную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняў, заселеныя беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацьверджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсьніць яго палітычна дзяржаўныя ідэалы.

Дана ў Менску — Беларускім 25 сакавіка 1918 г.

***Друкуецца на мове арыгінала, паводле выдання «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі» (Лондан, 1960).***

## Гімн БНР

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны, родны свой прастор;
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!
Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух;
Ужо сцяг наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух.
На бой! за шчасце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...
На бой! — усе да аднаго!
Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.
Браты, да шчасця мы падходзім;
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!

**Макар КРАЎЦОЎ**

## Не дазволілі

Юбілей угодкаў з дня абвяшчэння БНР планавалі ўрачыста адзначыць і слонімцы. У сувязі з гэтым старшыня гарадской Рады Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» Іван Бядко накіраваў у Слонімскі гарвыканкам заяву на дазвол правядзення вечарыны ў РДК.

Улады разгледзелі заяву і вырашылі, што «у прамым сэнсе БНР дзяржавай не з'яўлялася, не было арміі, не сфарміраваліся органы ўлады на месцах, адсутнічалі фінансавыя, судовыя сістэмы, не ажыццяўлялася прыняцце законаў і іх рэалізацыя на пэўнай тэрыторыі, не ажыццяўляліся кантрольныя функцыі». Таму гарвыканкам забараніў праводзіць мерапрыемствы з указанай нагоды.

Слонімскія фронтаўцы паспрабавалі абскардзіць гэта рашэнне ў пракуратуры. Калі вынік будзе станоўчы, у нядзелю, 22 сакавіка, у малой зале РДК святкаванне ўгодкаў БНР усё ж адбудзецца. Пачатак у 15 гадзін.

**Сяргей ЁРШ**

***У той час, калі ў Беларусі святкаванне ўгодкаў БНР фактычна забараняецца, беларусы Аўстраліі (на здымку) штогод урачыста адзначаюць гэта свята.***




## Слонім і БНР

**Пра дзейнасць у Слоніме органаў улады Беларускай Народнай Рэспублікі мала што вядома. За савецкім часам пра гэта пісаць не было прынята, таму і замоўчвалі. Толькі іншы раз ва ўспамінах якога-небудзь камуністычнага дзеяча з'яўлялася загадкавае слова — «БНР».**

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі, 27 сакавіка 1918 года Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову, згодна з якой усе дзяржаўныя ўстановы краю з 9 сакавіка «з'яўляюцца ўстановамі Беларускай Народнай Рэспублікі і толькі яе іменем павінны выконваць сваю працу». Праўдападобна, што гэтую пастанову атрымалі і слонімскія грамадзянскія ўстановы, дазволеныя нямецкімі акупантамі.

Камандаванне 10-й нямецкай арміі, пад акупацыяй якой знаходзілася Беларусь, спачатку варожа ставілася да Рады БНР. Пасля ўступлення немцаў у лютым 1918 г. ў Мінск, яны сарвалі беларускія нацыянальныя сцягі, канфіскавалі касу Рады БНР. Аднак пасля, спалохаўшыся, што Рада БНР можа перайсці ў падполле і ўзняць антынямецкі рух супраціўлення, акупанты змянілі сваё стаўленне да яе. Ужо 27 сакавіка была апублікавана пастанова аб перадачы Радзе мясцовых органаў улады. Рада БНР узяла пад свой кантроль гандаль, прамысловасць, асвету і сацыяльнае забеспячэнне.

Пры непасрэдным удзеле беларускага ўрада ў 1918 годзе па ўсёй Беларусі пачалі арганізоўвацца нацыянальныя школы. Тэрмінова пачалі друкаваць беларускія падручнікі, арганізоўваць настаўніцкія курсы і школьную інспекцыю. Пакуль невядома, ці арганізаваліся ў той час беларускія школы на Слонімшчыне і ці атрымаў хто-небудзь з нашых землякоў пашпарты Беларускай Народнай Рэспублікі.

9 снежня 1918 года ў Слоніме ў будынку Народнага дома (пазней — РДК) адкрыўся так званы «Першы з'езд Саветаў Слонімскага павета». Так яго назвалі бальшавікі ўжо пазней, а тады нямецкія акупанты дазволілі правядзенне «нарады прадстаўнікоў горада і вёскі для вырашэння зямельных і іншых гаспадарчых спраў». Адзін са слонімскіх бальшавікоў успамінае, што на гэтай нарадзе прысутнічаў і сябра слонімскай управы (установа БНР). А калі на наступны дзень праходзіла тайная нарада дэлегатаў, на якой пачалі верхаводзіць бальшавікі, падняўся дэлегат з Харашэвіч. Па ўспамінах слонімскіх камуністаў, ён «даказваў, што Слонімскі павятовы з'езд павінен выказацца за падтрымку Рады Беларускай народнай рэспублікі. Менавіта яна цалкам адлюстроўвае інтарэсы беларускай нацыі, паколькі абвясціла пра незалежнасць Беларусі і яе поўным аддзяленні ад Расіі».

У сакавіку 1919 года, на змену немцам і бальшавікам, у Слонім прыйшлі польскія войскі, якія імкліва рухаліся на ўсход. Яны пачалі арганізоўваць сваю акупацыйную ўладу. Пачаўся пераслед беларускіх урадоўцаў і вайскоўцаў, ды, наогул, прыхільнікаў БНР. У Гродне палякі раззброілі і арыштавалі Першы Гродзенскі беларускі полк...

Аднак «начальнік польскай дзяржавы» Язэп Пілсудскі, які меў у сваім паходжанні беларускія карані, хутка змяніў сваё стаўленне да БНР. Больш таго, у 1919 годзе Пілсудскі выдаў дэкрэт аб фарміраванні беларускага войска. Вось некаторыя вытрымкі з гэтага дакумента:

«Беларускія аддзелы фармуюцца з добраахвотнікаў. Дзеля гэтага ў кожным вярбовачным бюро на абшары беларускіх зямель будзе адзін камісар, або афіцэр і адзін пісар — беларусы.

Палкоўніка Г. Канапацкага, запрапанаванага мне Беларускай Вайсковай Камісіяй, прызначаю камандзірам беларускага войска.

Месцам фармавання беларускага войска будзе Слонім».

Такім чынам, у 1919 годзе ў нашым горадзе павінна было пачацца фарміраванне арміі Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак стварыцца яна не паспела. У 1920 годзе ішла жорсткая польска-савецкая вайна. У Слоніме ўлады змяняліся адна за другой. Беларуская Вайсковая Камісія выехала ў Польшчу, а Рада БНР і частка створаных беларускіх вайсковых аддзелаў знаходзіліся ў Літве.

Пасля Рыжскага дагавора 1921 года паміж Польшчай і Савецкай Расіяй Беларусь была падзелена на некалькі частак. Слонімшчына апынулася пад уладай Польшчы. Аднак у нашым краі было шмат прыхільнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія не хацелі мірыцца з яе знішчэннем. На Слонімшчыне арганізаваліся партызанскія атрады, якія падначальваліся Ураду БНР на эміграцыі і некалькі гадоў змагаліся супраць польскіх уладаў.

Ідэі БНР жывуць на Слонімшчыне і сёння. Штогод 25 сакавіка патрыятычная грамадскасць горада ўрачыста адзначае ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Будуць яны адзначацца і сёлета.

**Сяргей ЁРШ**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Забыты ветэран



*Іван Падковіч*

**Ужо сёмы год мы жывем у незалежнай Беларусі, але, нажаль, ніяк не можам да гэтага прывыкнуць. Самае трагічнае тое, што мы так і не навучыліся шанаваць людзей, якія пралівалі кроў за незалежнасць Бацькаўшчыны. Прыкладам таму, лёс чалавека, пра якога мы сёння хочам расказаць. Да самай старасці ён цярпеў знявагу і здзекі за тое, што любіў і любіць Радзіму.**

## Яны абаранялі сваю Радзіму

21-гадовы жыхар вёскі Пятралевічы Іван Падковіч летам 1942 года быў мабілізаваны ў "беларускую армію". Тады павесткі атрымалі многія хлопцы і мужчыны з навакольных вёсак. Сабралі іх у казармах вайсковай часці ў Слоніме і сказалі, што "арганізуецца беларуская армія, каб абараніць сваю Радзіму".

Іван Падковіч успамінае, што ўсе камандзіры былі беларусы і паходзілі са Слонімшчыны, а галоўным у іх лічыўся капітан Дакіневіч. Спачатку іх муштравалі ў Рышчыцах. Потым яны атрымалі зброю і прысягнулі на вернасць Бацькаўшчыне — Беларусі...

**Даведка:** *Падчас нямецкай акупацыі ў 1942-44 гадах у Слоніме існавалі рэгулярныя аддзелы беларускай арміі — Беларуская Самаахова, а пасля — Беларуская Краёвая Абарона (БКА). Беларускімі вайскоўцамі ў Слоніме камандаваў капітан Язэп Дакіневіч, які ўваходзіў у падпольную антыфашысцкую і антыкамуністычную вайсковую арганізацыю — Беларускую Незалежніцкую Партыю (БНП). БНП ставіла сваёй галоўнай мэтай заваяванне незалежнай беларускай дзяржавы і рыхтавалася да барацьбы супраць усіх акупантаў Беларусі. У гэтых мэтах планавалася выкарыстаць створаныя беларускія вайсковыя аддзелы.*

Напрыканцы 1943 года другую роту Слонімскага беларускага батальёна, дзе служыў Падковіч, немцы накіравалі ў Руду Яварскую (Дзятлаўскі раён). Там яны павінны былі стаяць гарнізонам. У сакавіку 1944 года частка жаўнераў і афіцэраў БКА, у тым ліку і Падковіч, перайшлі на бок савецкіх партызанаў. Трапілі яны ў партызанскі атрад імя Леніна, у складзе якога слонімцы ваявалі супраць фашыстаў да лета 1944 г.

## Тройчы паранены

Калі на Слонімшчыну прыйшла Чырвоная Армія, партызанаў пастроілі на вялікай паляне. Перад імі выступіў савецкі афіцэр і сказаў: "Таварышы! Вы былі ў партызанах, а цяпер вы сталі байцамі рэгулярнай Чырвонай Арміі. Абмундзіраванне выдаваць вам пакуль не будзем, бо няма калі — трэба гнаць ворага..." І пайшлі беларускія хлопцы змагацца з фашыстамі з вінтоўкамі ў руках, якія атрымалі яшчэ ў БКА.

339-ты стралковы полк Івана Падковіча вёў цяжкія баі. Падковіч быў тройчы паранены: першы раз пад Ваўкавыскам, другі — пад Ломжай, а трэці — ва Усходняй Прусіі. У кастрычніку 1945 г. ён быў датэрмінова дэмабілізаваны.

## «Вы изменили советской Родине!»

У Слоніме Падковіч уладкаваўся на працу ў арцель "Чырвоны абутнік". Аднак былому франтавіку спакойна жыць не далі. Яго неаднаразова выклікалі ў КДБ, дзе дапытваліся, чаму ён адразу не пайшоў у партызаны, а быў у беларускай арміі. Органы не хацелі разумець, што, калі б ён не стаў жаўнерам, то магла пацярпець яго сям'я (11 душ!)... А 11 чэрвеня 1948 года на працу за ім прыйшоў чэкіст. У КДБ Івану Падковічу сказалі, што ён арыштаваны. Спачатку яго пасадзілі ў падвал, а пасля адвезлі ў Баранавічы ў сумнавядомую турму "Крывое кола".

"Почему вы против русских пошли?" — увесь час дапытваліся следчыя ў Падковіча. Калі ён адказаў, што нічога не мае супраць братоў-славян, то яму не паверылі. "У беларускай арміі нам казалі, што мы будзем абараняць сваю Беларусь, а саветы пыталіся: "Почему вы изменили советской Родине?" — гаворыць Іван Васільевіч. — Але якое дачыненне я меў і маю да "советской родины", калі я нарадзіўся і жыву ў Беларусі?!"

## Па этапу

У Баранавічах ваенны трыбунал судзіў сем былых слонімскіх жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны: Івана Падковіча, Уладзіміра Бортніка, Сцяпана і Мікалая Дэйкаў, Пятра Ката, Іосіфа Комара і Уладзіміра Серафімовіча. Усіх іх абвінавацілі ў "здрадзе Радзіме".

У якасці сведкі на судзе выступаў вядомы партызанскі камандзір са Слоніма Пракоп Герасімчык, які пацвердзіў, што Падковіч і іншыя, сапраўды, былі ў партызанах. Другога сведку, Сідорыка, з Азарыч, за тое, што ён сказаў "каб не было беларускай арміі ў Азарычах, дык немцы ўсю вёску спалілі б", міліцыянты выцягнулі з залы суда.

Усім слонімцам далі па 25 гадоў канцлагераў, а Падковічу, як тройчы параненаму на фронце, — 15. Пасля абвяшчэння прыгавора Падковіч падняўся і сказаў: "Гражданін начальнік! Мае сябры, якіх вы асудзілі, не адсядзяць гэтых 25 гадоў, як і я 15. Таму прашу, каб і мне прысудзілі 25..."

Свой тэрмін Іван Падковіч адбываў на поўначы, у Інце, дзе працаваў у шахтах, на лесапавале. Вызваліўся па амністыі ў 1955 годзе і вярнуўся ў Слонім.

## Пасведчанне забралі, ордэн не далі...

Іван Падковіч, як і ўсе ветэраны, атрымаў пасведчанне ўдзельніка вайны. Аднак у 70-ыя гады гэты дакумент у яго адабралі. Выклікалі тады Падковіча ў ваенкамат і заявілі: "Навошта ў беларускай арміі служыў і супраць савецкай улады ішоў?!". Пасведчанне адаслалі ў Гродна ў КДБ. Пазней Іван Падковіч спрабаваў дабіцца, каб пасведчанне вярнулі, але пасля зміры ўся, бо не было сіл змагацца...

Калі разваліўся Саюз, Падковіч звярнуўся ў камісію па рэабілітацыі. Яму адказалі, што "вы не былі рэабілітаваны, вас толькі амнісціравалі"...

А некалькі гадоў таму ў слонімскі ваенкамат прыйшоў ордэн Чырвонай Зоркі, якім Падковіч быў узнагароджаны за баі пад Кенігсбергам. Тады ён не паспеў яго атрымаць, бо быў паранены і трапіў у шпіталь. І вось праз дзесяткі гадоў узнагарода знайшла героя. Падковіча запрасілі ў ваенкамат, каб пры ўрачыстых абставінах уручыць ордэн. Але там высветлілася, што ветэран не мае пасведчання ўдзельніка вайны, якое некалі ў яго забралі работнікі ваенкамата. Ордэн Івану Васільевічу так і не ўручылі.

## ...і ў душу наплявалі

Калі Іван Падковіч ішоў на пенсію, яму трэба было да стажу дадаць тыя месяцы, што ваяваў у партызанах. У сувязі з гэтым ён атрымаў з архіва даведку і пайшоў да намесніка старшыні райвыканкама Аляксандра Тарсунова, каб той засведчыў дакументы. Па словах Падковіча, у кабінеце начальніка атрымалася наступная размова:

—Ты супраць майго бацькі ваяваў! — сказаў Тарсуноў.

Падковіч адказаў:

—Слухайце, я прыйшоў да вас па дапамогу, а не каб вы тут следства вялі. Я на следстве ўжо быў. Сем гадоў і сем месяцаў сядзеў у лагерах. Мне такія допыты не патрэбны. Не ведаю я вашага бацьку, а тым больш вас!

У выніку, замест сарака гадоў працоўнага стажу, Івану Васільевічу запісалі толькі 32.

—Нядаўна інспектар райсабеса пытаўся ў мяне, чаму ваенны стаж мой няўлічаны, — кажа Падковіч, — а я яму гавару: — Хай будзе так, як ёсць. Дайце мне спакойна памерці...

Сёлета Івану Васільевічу Падковічу, інваліду другой групы, ветэрану, у якога адабралі пасведчанне ўдзельніка вайны і заслужаную ўзнагароду, споўніцца 77 гадоў.

**Сяргей ЁРШ**

# Книга рекордов Беларуси

➔ Первый исторически известный князь первого древнебелорусского государства — Полоцкого княжества — князь Рогволод (середина X века).

➔ Самый древний город Беларуси — Полоцк (862 г.), он же и самая первая столица первого древнебелорусского государства — Полоцкого княжества.

➔ Термин «Белая Русь» был впервые употреблен в «Хронике Польши» (на латинском языке), где Полоцк назван «крепостью Белой Руси».

➔ Первые школы на территории Беларуси появились в XI веке при монастырях и дворах князей.

➔ Впервые на территорию Беларуси христианство проникло в X веке с Византии.

➔ Самыми воинственными великими князьями ВКЛ считаются: Альгерд (1345-1377г.г.) и Витовт (1392-1430г.г.). Именно в период их правления империя — ВКЛ — расширила свои границы до Черного и Балтийского морей, а также до истоков рек Волга, Ока (на востоке) и до Варшавского воеводства (на западе).

➔ Человек на территории Беларуси появился в среднем палеолите (примерно 100-40 тыс. лет тому назад).

➔ Первую типографию основал в столице ВКЛ Вильно в 1522 году Ф.Скорина, где издал «Малую падарожную кніжыцу» на старобелорусском языке. Затем появились типографии в Бресте (1533 г.), Несвиже (1562г.) и других городах Беларуси.

➔ Первый монетный двор появился приблизительно в 1381-1382 г.г. в Вильно. Потом был создан Брестский монетный двор (1659г.), который начал работать с декабря 1655 года, позже — Гродненский монетный двор (с 1706 г.).

➔ Впервые русские люди начали поселяться в белорусских краях в конце XV века. Как правило, это были беженцы от царского гнета из Московии и других районов России.

➔ Самый древний монументальный (каменный) храм на территории Беларуси — Полоцкий Софийский собор (середина XI).

➔ Самой первой газетой считается «Gazeta Grodnenska», которая начала выходить (еженедельно) летом 1776 года в Гродно на польском языке.

➔ Первый человек в мире, который описал в качестве схем, конструкций, рисунков многоступенчатую ракету в изданной 1650 году в столице Нидерландов — Амстердаме — книге «Великое искусство артиллерии», был не Циолковский, а белорус с Витебщины Казимир Семенович.

➔ Первая печатная белорусская книга — «Псалтирь» — была издана в 1517 году в Праге Франциском Скориной (это на 47 лет раньше, чем первая печатная русская книга...)

➔ Самая первая (а также одна из первых в Европе) Конституция — Статут Великого княжества Литовского 1529 года — написана на старобелорусском языке. Известны переводы на латинский (1530г.), польский (1532 г.) и другие языки. Данная Конституция — памятник древнего белорусского языка и юридической мысли феодальной эпохи.

➔ Самая крупная битва средневековья — Грюнвальдская (15 июня 1410 г.). С обеих сторон участвовало более 200 тысяч воинов. Из 40 полков 30 прибыли под боевыми знаменами с изображением «Погони», из которых 20 полков являлись по сути своей этнично белорусскими. В результате этой сечи враг потерял убитыми 40 тысяч отборного воинства, а 15 тысяч было пленено. После такого разгрома псов-рыцарей Тевтонского ордена на наши земли 500 (!) лет не ступала нога вооруженного германца. Таким образом объединенные славянские силы доказали всему миру и агрессорам свою победоносную мощь и величие.

➔ Самый «громкий» террорист, убивший в 1881 году бомбой царя Российской империи Александра Второго, — белорусский дворянин Игнат Гриневицкий.

➔ Согласно Книге рекордов Гинесса, самое массовое обнаруженное захоронение, в котором покоятся останки 30 тысяч жертв репрессий, расстрелянных спецкомандами НКВД до 1941 года, находится в урочище Куропаты под Минском.

➔ Первая белорусская политическая партия появилась осенью 1902 года в Санкт-Петербурге. Ее создатели: группа студентов-белорусов во главе с В.Ивановским, А.Пашкевич, И.Луцкевичем и другими...

➔ Первый белорус, удостоенный звания Героя Советского Союза (1936г.), — Н.А.Селицкий.

➔ Первый дважды Герой Советского Союза — летчик-истребитель майор Грицевец С.И. (сбил 40 самолетов противника, в том числе 7 за один день).

➔ Единственный в мире летчик, который во время Курской битвы сбил в одном воздушном бою 9 самолетов, — старший лейтенант Александр Горовец (1915-1943гг.)

«НВ»

